ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 25 (1780) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 24 ЧЭРВЕНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл



Таццяна Мархель і Рыгор Шацька ў сцэне з „Конскага партрэта" Леапольда Родзевіча. (Аб пабыўцы акцёраў віцебскага тэатра імя Я. Коласа на Беласточчыне чытайце на стар. 6).

## ЗА ДЭМАКРАТЫЮ

3 чэрвеня пабывалі ў Беластоку лідэры Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", намеснікі старшыні Сойму БНФ Юры Хадыка і Міхась Ткачоў. Яны прысутнічалі на супольным пасяджэнні Галоўнай рады і Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, на якім разглядаліся вынікі выбараў у тэрытарыяльныя самаўрады на Усходняй Беласточчыне. Карыстаючыся нагодаю, наша газета папрасіла інтэрв'ю ў абодвух сяброў Сойму БНФ.

*„Ніва": Як ацэньваеце грамадска-палітычныя змены, што наступілі на Беларусі за апошні год, ад Устаноўчага з'езда БНФ у Вільні да чэрвеня сёлета?*

**Юры Хадыка:** Нам, вядома, хацелася б, каб зменаў было больш. Але, азіраючыся на падзеі, якія папярэднічалі Устаноўчаму з'езду, трэба сцвердзіць, што дэмакратызацыя грамадскага жыцця прасунулася наперад, ды і папулярнасць БНФ узрасла таксама. Гэты год быў адзначаны вельмі ўпартай і заўзятай барацьбой з наменклатурай. Нам вельмі перашкаджала, што Фронт не быў зарэгістраваны, не меў доступу да сродкаў масавай інфармацыі на такім узроўні, як мелі дэмакратычныя рухі ў Маскве ці Ленінградзе, не кажучы ўжо пра Прыбалтыку або Украіну. Наша кансерватыўнае кіраўніцтва добра разлічыла ў гэтых адносінах, яно рабіла ўсё, каб заціснуць голас дэмакратычных сіл.

За гэты год Фронт больш за ўсё прыкладаў намаганні для выкрыцця паслячарнобыльскага становішча ў рэспубліцы, для прыцягнення ўвагі сусветнай грамадскасці да бяды нашага народа. Частка часу, немалая, была аддадзена барацьбе на выбарах. Нам, зразумела, не ўдалося выкрасліць з антыдэмакратычнага закона аб выбарах усе пасткі, пастаўленыя на тое, каб скаваць ініцыятыву людзей і не дапусціць да голасу дэмакратычных сіл. Аднак жа нам удалося дабіцца ў Вярхоўным Савеце БССР даволі-такі прадстаўнічай групы дэпутатаў. Крыху больш за 20 чалавек падпісала дэкларацыю, складзеную на падставе перадвыбарчай платформы БНФ. Гэта даволі пэўная, акрэсленая БНФ-аўская фракцыя. Па большасці агульнапалітычных пытанняў падтрымлівае фракцыю каля 100 чалавек. Гэта, галоўным чынам, прадстаўнікі сельскай інтэлігенцыі, да якіх уся інфармацыя пра БНФ даходзіла раней у скажоным выглядзе, у бальшавіцкай інтэрпрэтацыі. Рэальна гледзячы на сітуацыю, скажам так: дэмакратычная плынь у Вярхоўным Савеце ахоплівае каля трэці дэпутатаў.

*„Ніва": Як чарнобыльская катастрофа і яе наступствы ўплываюць на палітычнае жыццё Беларусі?*

**Міхась Ткачоў:** Чарнобыльская катастрофа з'яўляецца, фактычна, каталізатарам палітычнага жыцця. Яго паскаральнікам. І мы бачым, як ад маўклівай масы народа, які цярпеў і пакутаваў, не падаючы голасу, мы падышлі да таго, што ў буйнейшых гарадах рэспублікі стварающца забастовачныя камітэты, праводзяцца забастоўкі. Побач з эканамічнымі пытаннямі падымаюцца і палітычныя. На нашых вачах незалежнасць рэспублікі, як эканамічная, так і палітычная, становіцца ідэяй, якая сёння пануе ў грамадстве. Гэта па-першае. Па-другое, чарнобыльская бяда спарадзіла ў грамадстве велізарнае напружанне псіхалагічнага характару. Нам нестае чыстых прадуктаў, множацца захворванні дзяцей і дарослых. Сёння гематалагічныя аддзяленні прымаюць у 5 разоў больш хворых дзяцей. Усё гэта пасеяла ў грамадстве глыбокае расчараванне палітыкай партыі, адабрала давер, які дагэтуль ліпеў яшчэ на нейкіх нітачках. Мы практычна стаім перад такім фактам, што грамадства ахоплівае ідэя нянавісці да камуністычнай партыі. Яно ўсведамляе, што прычына ўсіх бедаў нашай зямлі за апошнія 70 гадоў крыецца ў ідэалогіі, якая нялюдскімі метадамі ўтрамбоў-

(Працяг на стар. 6)

## З ДРУКУ

### МЕНШАСЦІ ПРОСЯЦЬ СЛОВА

Заходненямецкая штодзённая газета „Die Welt" у карэспандэнцыі Кляўса Бахмана напярэдадні выбараў у Польшчы (26.05. 1990), характарызуючы перадвыбарчую палітычную сітуацыю, паведамляе між іншым:

„Вялікую актыўнасць праяўляюць таксама нацыянальныя меншасці, якія на гэтых выбарах першы раз маюць магчымасць закласці падставы пад сваю культурную самабытнасць на месцы пражывання. У этнічна беларускай частцы Польшчы, на паўночным усходзе краіны, у Беластоцкім ваяводстве, дзе нядаўна заснавалася беларуская партыя — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, — на выбарах выступаюць беларускія выбарчыя камітэты, якія імкнуцца ў беларускіх гмінах увесці ў адміністрацыю беларускую мову як другую афіцыйную мову, заснаваць беларускія школы і ўвесці двухмоўныя назвы мясцовасцяў. У Ольштыне ў кааліцыі з грамадзянскім камітэтам „Салідарнасці" ідзе на выбары Украінскі грамадзянскі камітэт. З усіх меншасцяў украінцам даводзіцца найцяжэй, паколькі пасля вайны ў выніку перасялення яны былі распылены па ўсёй Польшчы і толькі зрэдку складаюць кампактныя супольнасці.

Тымчасам найактыўней дзейнічае нямецкая нацыянальная меншасць, якая ў Апольскім ваяводстве змагаецца за 500 з агульнага ліку каля 1500 мандатаў, у Катавіцах выставіла 39 кандыдатаў нямецкага паходжання, у Чэнстахоўскім ваяводстве — пяць. У Аполі, дзе Грамадска-культурнае таварыства нямецкай меншасці мае вялікія шанцы, ягоныя актывісты спадзяюцца займець сваіх бургамістраў і войтаў. У адрозненне да дапаўняльных выбараў у Сенат у лютым, калі „Салідарнасць" і меншаснае таварыства выступалі як сапернікі, цяпер ёсць супольныя выбарчыя спісы. У мясцовасці Берава „Салідарнасць" ідзе ў кааліцыі з нямецкім таварыствам, у іншых вёсках кандыдаты нямецкага паходжання прымыкаюць або да сельскіх каапэратываў, або да кандыдатаў мясцовых пажарніцкіх каманд."

(ям)




— 5 —

# АБ'ЯДНАНАЯ ГЕРМАНІЯ

Калі думаю аб Германіі і аб тым, што вельмі па-рознаму глядзяць на яе аб'яднанне маладыя і старыя, прыгадваецца мне адна полька з Люблiншчыны, з якой давялося мне сустрэцца некалькі гадоў таму назад. Гэта жанчына сказала мне, што немцы забілі яе бацькоў, а яе зусім яшчэ маладую пасадзілі ў лагер. Вызваліла яе Савецкая Армія. На ўсё жыццё застаўся ў яе нямецкі комплекс. Не можа яна спакойна слухаць нямецкую гутарку і ўвогуле размовы аб Германіі. Пачынае ў такіх сітуацыях траціць духоўную раўнавагу. I вось над гэтай полькай лёс балюча закпіў. Яе дачка ў 1958 годзе паехала ў Заходнюю Германію і там засталася. Праз пяць гадоў запрасіла да сябе брата. Брат паехаў і ўжо не вярнуўся. Вось такім чынам жанчына засталася і без дачкі і без сына. Яе дзеці добра ў Германіі ўладкаваліся. Залажылі сем'і і абзавяліся дзецьмі. Аб маці не забылі. Увесь час прысылалі пасылкі. Аднак усё гэта не толькі не памагала маці, але яе страшэнна мучыла і дражніла. Ніяк не магла пагадзіцца з тым, што яе родныя дзеці пакінулі Польшчу і выбралі зненавіджаную ёю Германію. Было б ёй лягчэй, і калі б яны паехалі ў любую еўрапейскую краіну, толькі не ў Германію. Некалькі гадоў таму назад сын і дачка прыехалі да маці на дзвюх супердарагіх машынах. Прыехалі з дзецьмі. „І вось гэтыя дзеці, — гаворыць жанчына, — са мной сяк-так гавораць па-польску, але паміж сабою „гіргечуць" толькі па-нямецку. Гэта ж мае ўнукі, мая кроў. Як жа яны могуць паслугоўвацца той мовай, якой паслугоўваліся забойцы маіх бацькоў? Два тыдні я мучылася. Калі ўсе заснулі, я ўсю ноч плакала і пытала Бога, чаму ён мяне так пакараў. За якія грахі я такая нешчаслівая? А ці ж я магу мець прэтэнзію да тых бязвінных дзетак за тое, што яны гавораць па-нямецку? Яны ж нарадзіліся ў Германіі і Германія — іх айчына. Але чаму такое няшчасце звалілася якраз на мяне? Чаму гэта ўсё мае патомкі будуць ужо не палякамі, а немцамі? Прасіла я і дачку, і сына, каб засталіся. Гаварыла, што ў хаце ў нас можа і не так багата, як у Германіі, але ж гэта наша айчына. А на гэта мне дачка: „Мама. ты глядзіш на ўсё вельмі па-старасвецку. Для чалавека айчына там, дзе дабрабыт". Божа мой, Божа, як жа ж можна сказаць такое? Мала гэтага, дзеці пачалі мяне намаўляць, каб я да іх прыехала і засталася з імі да смерці. Гэта значыць, што мне трэба пакінуць і хату, і магілы бацькоў, і наш касцёл?! Ніколі. Праўда, усё ж нагаварылі мяне, каб я прыехала да іх у госці. Прыслалі вызаў. Я так адурэла ад гэтага ўсяго, што нават купіла білет і паехала. Даехала да Вроцлава. I там схапіў мяне такі жаль, такі боль, такі сорам, што я сышла з цягніка і вярнулася дамоў. Не магу я ехаць туды і не паеду. Сэрца маё да дзяцей рвецца. Далей мяне завальваюць пасылкамі, далей мяне запрашаюць, але голас маіх забітых бацькоў гаворыць: „Не едзь да нашых забойцаў, бо гэтага граху Бог табе не даруе". Так я і не паехала. I не паеду".

Вось і ўсё. Здаецца мне, што гэта гісторыя як на далоні паказвае ўсю праблему. Маладое пакаленне, для якога Майданкі і Асвенцімы — гэта толькі далёкая гісторыя, па-другому глядзіць на нямецкую праблему. Мабыць, сказанае адносіцца не толькі да маладога польскага пакалення, але і да нямецкага. I таму, здавалася б, трэба прызнаць рацыю не старым, а маладым. Аднак памятайма, што нямецкая нацыя заўсёды праяўляла агрэсіўнасць у адносінах да суседзяў. Ці можам сказаць, што, пачынаючы ад 1990 года, змяніўся нямецкі характар? Ці ж вялікі дастатак і багацце могуць не радзіць эгаізму і экспансіўнасці? Я асабіста перакананы, што натура нацыі не змяняецца на працягу трыццаці гадоў. I таму трэба тут захаваць пільнасць і асцярожнасць.

**Алесь Барскі**

# З мінулага тыдня

**I фестываль беларускай песні** адбыўся ў Беластоку. Прымалі ў ім удзел спевакі і калектывы з Польшчы і БССР. Больш дэталёвыя інфармацыі пра фестываль змесцім у найбліжэйшых нумарах нашага тыднёвіка.

**Новым патрыярхам Масквы і ўсяе Русі быў выбраны Алексій II.** Урачыстасць увядзення на патрыяршы прастол адбылася ў Багаяўленскім саборы ў Маскве.

**У Брэсце сустрэліся міністры замежных спраў СССР і ФРГ, Эдуард Шэварднадзе і Ганс-Дзітрых Геншэр.** Тэмай перагавораў была нямецкая праблема, а канкрэтна міжнародныя аспекты аб'яднання Германіі. Прадстаўнік урада міністр Малгажата Незабітоўская назвала месца перагавораў няўдачным. Польскаму грамадству нагадвае яно сепаратысцкі савецка-германскі Брэсцкі мір з 1918 г. і савецка-нямецкі ваенны парад у верасні 1939 года.

**Прэзідэнты Літвы, Латвіі і Эстоніі** спаткаліся з прэзідэнтам СССР Міхаілам Гарбачовым. Гэты факт дае надзею на кампраміснае вырашэнне пытання незалежнасці прыбалтыйскіх рэспублік. Перад сустрэчай Міхаіл Гарбачоў памякчыў сваё становішча ў справе дэкларацыі незалежнасці Літвы і сказаў, што хапіла б часовай адтэрміноўкі гэтай дэкларацыі, каб пачаць перагаворы ў справе адлучэння.

**I з'езд народных дэпутатаў РСФСР прыняў дэкларацыю незалежнасці Расіі.** Гэты дакумент прызнае перавагу рускаму рэспубліканскаму заканадаўству над савецкім. Дэпутаты выказалі рашучую волю будаваць прававую і дэмакратычную дзяржаву ў адноўленым Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

**У лясным парку каля Харкава** знаходзіцца месца пахавання савецкіх грамадзян і польскіх ваенных, расстраляных у 1940 годзе. Праўдападобна, пахаваны тут расстраляныя НКВД польскія афіцэры з лагера ў Старабельску.

**Студэнтка з Беларусі, 17-гадовая Марыя Кежа** была выбрана ў Маскве на ўсесаюзным конкурсе „Королевой красоты" на 1990 год.

**Савецкая ваенная форма стала моднай.** З гранічнага пункта ў Любешыне было вернута 11 турыстаў, галоўным чынам, жыхароў Калабжэга і Белагарда (там размешчаны савецкія ваенныя часці), у якіх таможнікі знайшлі 33 мундзіры, 11 шапак і многія ваенныя ордэны і адзнакі. На заходнебярлінскіх і заходнегерманскіх базарах савецкае ваеннае абмундзіраванне цешыцца попытам, а камплектны мундзір каштуе да тысячы марак.

**Арыштаваны віноўнікі нападу на ваеннага вартавога ў Гайнаўцы,** якому забралі яны зброю і 30 патронаў. Два браты-разбойнікі прабавалі ўчыніць напад на працаўнікоў аўта-запраўачнай станцыі (ЦПН) у Астрове-Мазавецкай, дзе і папаліся. Раней адзін са злачынцаў праходзіў вайсковую службу ў Гайнаўцы.

**У Мельніку** трэба было адтэрмінаваць сесію гміннай рады, на якой меў быць выбраны войт гміны. Кандыдат на пасаду войта **начальнік гміны Ян Здуневіч** быў пабіты невядомымі злачынцамі і знаходзіўся ў шпіталі. Атрымаў ён таксама ліст-ананімку, у якім „жыхары Мельніка" раяць яму адмовіцца кандыдаваць. Другі тэрмін сесіі назначаны на 22 чэрвеня г.г.

## СТАНАЎЛЕННЕ НОВАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ

Ад выбараў пачаўся працэс ажыццяўлення новага закона аб тэрытарыяльнай адміністрацыі. Ужо 28 мая г.г. (на другі дзень пасля выбараў) шэф Управы Рады Міністраў Яцэк Амбразевіч зацвердзіў новы статут Ваяводскай управы ў Беластоку, які генеральна памяняў структуру гэтай установы. Аб тым, як уводзіцца новая адміністрацыйная сістэма ў Беластоцкім ваяводстве, інфармавалі нядаўна на прэс-канферэнцыі ваявода **Мар'ян Гала** і дырэктар Ваяводскай управы **Станіслаў Барчэўскі.**

У выніку сістэмных змен самаўрады і самаўрадавая адміністрацыя атрымаюць новыя кампетэнцыі. Функцыянаваць будзе тры адміністрацыі: дзяржаўная, спецыяльная і самаўрадавая.

**Дзяржаўную адміністрацыю** ўзначальвае ваявода, які з'яўляецца прадстаўніком урада і беспасрэдна падначалены ён прэм'ер-міністру. Ваявода рэалізуе палітыку дзяржавы, і яго рашэнні не заўсёды будуць супадаць з партыкулярнымі інтарэсамі самаўрадаў. У распараджэнні ваяводы будзе Ваяводская управа. Структура гэтай установы дастасоўваецца да функцыянальных патрэб. Зараз у выніку рэарганізацыі паменшыўся лік аддзелаў управы з 21 да 14, а віцэ-ваяводаў — з трох да аднаго.

Да 28 жніўня г.г. будуць створаны раённыя управы ў дапамогу Ваяводскай управе ў выкананні адміністрацыйных абавязкаў. У адрозненне ад колішніх паветаў, раёны будуць займацца выключна адміністрацыйнай справай і не будуць весці гаспадарчай дзейнасці. Галоўная задача раённых управаў — сачыць за правільным прымяненнем права. Будуць яны выконваць функцыю адміністрацыйнай паліцыі ў галіне выканання будаўнічых, геадэзійных, санітарных правілаў. Прадбачваюцца чатыры раёны: у Беластоку, Бельску-Падляшскім, Сямяцічах і Саколцы.

Звяном **спецыяльнай адміністрацыі** з'яўляецца Кураторыя асветы і выхавання, якая непасрэдна падначальваецца Міністэрству нацыянальнай адукацыі. У раёнах Кураторыя арганізуе свае дэлегатуры. Зараз у распараджэнні Кураторыі знаходзіцца ўсё школьніцтва (прадшколлі і яслі будуць у кампетэнцыі тэрытарыяльных самаўрадаў).

Бурмістр і войт узначаляць **самаўрадавую адміністрацыю.** У іх руках знойдуцца адміністрацыйныя і гаспадарчыя справы. Уся сфера камунальнай гаспадаркі, якая дагэтуль вырашалася ў Ваяводскай управе, пераносіцца ў гарадскія і гмінныя самаўрады. Зараз ў паасобных гарадах і гмінах праводзяцца сесіі нававыбраных радаў, якія выбіраюць сваіх старшыняў, а затым бурмістраў або войтаў.

Рэформа адміністрацыі вядзе за сабою кадравыя змены. Лік чыноўнікаў у Ваяводскай управе паменшыцца на палавіну, а частка працаўнікоў знойдзе працу ў раёнах. Непазбежны змены ў гарадской і гміннай адміністрацыі. Аб яе структуры вырашаць тэрытарыяльныя рады. Уся рэформа праводзіцца з такім улікам, каб у глабальным маштабе не павялічыць лік чыноўнікаў і выдаткі, прадбачаныя на ўтрыманне адміністрацыі. Часткі працаўнікоў прыйдзецца шукаць іншай работы. Застануцца найбольш вопытныя людзі, якія добра ведаюць сваю работу, з'яўляюцца дысцыплінаванымі і лаяльнымі да сённяшняга ўрада.

**В. Луба**



# СОН АБ ЗУБРОВІІ



Віктар Швед — місійны паэт, і яго вершы выходзяць за рамкі чыста літаратурных падзей. Такой з'яўляецца і „Мая зялёная Зубровія", выдадзеная нядаўна „Мастацкай літаратурай".

З належнай місіянеру пакорнасцю бярэ паэт на сябе мукі сумлення зменлівых паганцаў; нават калі асвячае іх бізуном, падстаўляе пад удары і свае плечы („Мы, мы, мы").

Але „Зубровія", перш за ўсё, місіянерскі шматфазавы сон аб далёкай і блізкай сэрцу краіне — няспынная дарога: казачная і ўтомная, з райскімі прывальмі і пасткамі зларадных дзікуноў. Сон аб несмяротнай, шчаслівай і крылатай Зубровіі! Узбуджаецца ён у цудоўным, светлазорным і заўсёды юначым Мінску. Падарожнік адчувае сябе тут, як дома. Беларусь явіцца яму зямлёй гасціннай, жыватворчай, маладой, маляўнічай, уладарнай, працавітай, краем здзейсненых надзей і мараў. Распрацоўваючы гістарычнае паўстанне, прымяняе дыялектыку, асвоеную ў місійнай школе, і церпіць няўдачу — пусціў грознага „чырвонага камісара" Кастуся на панскія палацы. Апраставалосіўшыся, звяртаецца з мальбою да дрымучага лесу (ах, гэтыя язычніцкія гены!):

Слаўны лесе, раскажы нам
Аб мінулым дарагім.
Мы з гісторыяй Айчыны
Незнаёмыя зусім.

У руках асветніка пякучы бізун. Ад свайго ўцякаем? Здаецца нам, што мы з горшай гліны? Здраднікі! Перабежчыкі! Прыстасаванцы!

У роспачы дакарае Дрэва краіны:

— Мы ж адна з Тваіх галінак! Калі хочаш пладаносіць, шануй нас!

Тут жа клянецца:

— Якім нарадзіўся, такім і памру!

Прасвятлеўшы, успамінае якасці беларуса: працаздольны, не цураецца аніякай цяжкай працы, не згінаецца пад любой ношай, лоўка мінае перашкоды, непакорны і вясёлы, адменны танцор і выпівака, зусім не баіцца смерці.

Не дзіва — без чарадзейнай палачкі нягоды адыйшлі ў нябыт. Валатоўская фаза асушыла адвечнае балота. Зубровія з кожным годам прыгажэе, на палетках мора каласоў, у засені садоў дрэмлюць хаты: з іх рана, рана выйшаў народ у поле, сабраў спелае збожжа. Будзе слаўны ўмалот!

Тады можна перад дарогай спакойна і пасядзець на бацькоўскім парозе, праніклівым позіркам адгінатызаваць аслупянелых вартаўнікоў з токаноснымі дратамі на плячах. Засвяціліся пад стрэхамі электрычныя лямпачкі, добра і паразважаць. За цеплынёй і дабратой скалясіў шмат дарог, а яны, аказваецца, тут, у родных мясцінах.

Таму я сэрцам і душою
Імкнуся да цябе няспынна,
Маё Падляшша дарагое,
Мая маленькая Айчына.

Наталіўшы смагу ля крыніцы сваіх мараў і сноў, рэдкі госць кланяецца нізка калысцы з карэнняў і ў журбе пакідае святы прычал. Вяртаецца ў дрымотным дарожным кадры. Бычцам ён, хлапчына маладзенькі, арэ плугам зямельку... з агромністай сявенькі рассявае зерне... з белай расой косіць луг... зублёным сярпом жне загоны... заўзята малоціць цэпам авёс... едзе ў пушчу па дровы... меле ў жорнах муку... смакуе аржаны хлеб. Гаючая фаза. Затым непакой: з'яўляецца маці — глядзіць слабымі вачыма ў бок чыгуначнага прыпынку (мо цягнік прывязе сына?)... Пахнуць грушы, што ў печы хлебнай на чарэне...




За заплаканыя вочы,
За недаспаныя ночы,
За кожную казку,
За дабрату і ласку,
За матчыну пяшчоту,
За вечную турботу,
За цёплыя словы,
За любоў да мовы,
За роднасць з палямі
Дзякуй Табе,
Мая Мама.

І далей — у горад, да якога ніяк не дайсці. Паэт жыве, як заяц на мяжы. У гарадскім калаўроце, нікому непатрэбны, ловіць гоман белавежскіх дрэў і марыць аб асабістым шчасці, якога яшчэ не спазнаў.

Ад сэрца да сэрца — шлях далёкі.
Ад сэрца да сэрца — шлях нялёгкі.
Бягу, стаміўшыся, іду —
Другога сэрца не знайду.

У адчайных пошуках згубленага ў жыццёвым моры сонечнага караблікa, крыўдуе на няўдалы лёс.

Мне да шчасця нямнога трэба,
Толькі ў сэрцы не мець адзіноты...

Ажно і восень крочыць следам, сніцца лес залаты — суладдзе, спакой. А мо затоеная здрада? За вёскай, на ўзгорку, задумаўся аб горкай долі найбольшы самотнік на свеце — стары вятрак... Трывога! Чорнаю кошкай паўзе ў гулкі горад ноч. На дрожках дрэмле стары рамізнік, дрэмле і рамізніцкі конь. А пасажыраў няма, снуюць маторнымі экіпажамі, нават пат праходзіць міма. Сум. Раптам кружыцца галава ад паху скошанага луга. У вёску прыехалі ганчары (каму сёння сніцца такое?) і паня Аня — тутэйшая дзяўчына, цяпер у горадзе: грэбуе матчынай мовай, прагне толькі „wiejskiej kiełbaski"! У першай фазе — сон здаровы, у другой — дурны.

Уключыліся каляровыя кадры. Паэта палоніць рыцарскі Гевант, то радніцца ён з блізкай Масквою, то стогне ў сірэніных абдымках чарнаморскай Балгарыі, гатоў нават тут кінуць якар, але кліча дарога...

Малы тыраж (1800 экз.) дае падставу меркаваць, што зборнік не трапіць у Зубровію, выдыхнецца ля дзяржаўнай граніцы. Падобны лёс спасціг ужо не адно чаканае выданне. Ды гэта іншая гаворка.

**Г. Валкавыцкі**

# НОВЫЯ ВЫДАННІ

### „БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ"

На днях паказаўся першы нумар „Беларускіх Навінаў" — бюлетэня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання пад рэдакцыяй Яна Максімюка. Тыраж першага нумару — 1000 экземпляраў. Тэксты ў бюлетэні адрэдагаваны паводле дарэформеннага правапісу. Аб'ём — 24 старонкі фармату Б5.

Бюлетэнь адкрывае „маналёг з ухілам да дыялёгу" аўтарства самога рэдактара, які разглядае пытанне: „Ці мы баімся быць народам?". Тэкст у Максімюка атрымаўся нядрэнны, хаця зазначыць трэба, што падобную тэму вычарпальна распрацаваў ужо лідэр БДА ў незлічоных сваіх „сакратках".

Л. Баганец у артыкуле „Спачатку быў Беларускі Клюб" паказаў кароткую (усяго адзін год) гісторыю інтэлігенцкага гуртка, які запачаткаваў незалежную беларускую палітычную дзейнасць у Польшчы. Дзейнасць гэтая давяла да ўтварэння Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.

Далей у бюлетэні змешчаны матэрыялы з Устаноўчага кангрэсу БДА: парадак Кангрэсу, персанальны склад уладаў Аб'яднання, уводнае слова Сакрата Яновіча, ход дыскусіі, прынятыя Кангрэсам дакументы: праграма і статут БДА, адозвы Кангрэсу да беларускай эміграцыі і да БНФ „Адраджэнне". „Беларускія Навіны" змяшчаюць таксама выдадзеную ў адказ на апошнюю адозву дэкларацыю Управы Сойму БНФ „Адраджэнне", у якой БНФ дае падтрымку праграмным накірункам дзейнасці БДА і абяцае дапамогу.

Удзел беларусаў на выбарах у тэрытарыяльныя самаўрады адзначаны занатоўкай „Беларускі выбарчы камітэт" і адозвай таго ж камітэта да выбаршчыкаў-беларусаў.

Замыкаецца бюлетэнь гістарычным нарысам Яўгена Мірановіча „Беларускія партыі ў Другой Рэчыпаспалітай". Аўтар сцвярджае, што беларускі палітычны рух у міжваеннай Польшчы падзяляўся на дзве плыні: камуністычную (да якой залічвае і Грамаду) ды дэмакратычную. Вельмі цікавыя заўвагі аўтара наконт ідэйнай ідэнтыфікацыі беларускага сялянства. Паводле Я. Міраноўіча, прыналежнасць тысячаў сялян да КПЗБ трэба трактаваць хутчэй за ўсё як удзел у жыцці нейкай рэлігійнай арганізацыі, а і Грамада ўзнікла не з рацыянальных, але з эмацыянальных прадпасылак. Думаю, што гэта пацвярджаецца пазнейшай прыналежнасцю многіх былых сяброў Грамады да розных рэлігійных сектаў (напрыклад, грыбоўскай Іллі-прарока). Але і не магу нутрана пагадзіцца з залічваннем Грамады да камуністычнай плыні. Здаецца, сам Міраховіч паказаў магчымасць іншай катэгарызацыі беларускага палітычнага руху: грамадскай, менавіта. Тады і Грамада, і КПЗБ, і „грыбоўшчына" — гэта праявы аднаго і таго ж „рэлігійнага" руху. „Рэлігія" селяніна — гэта зямля, і кожны, хто хацеў лічыцца ў беларускай палітыцы, мусіў абяцаць, што дасць зямлю сялянам. А гэта яшчэ не камунізм, паколькі рабілі так і „буржуазныя" ўрады Літвы, Латвіі і Эстоніі, а ў Польшчы намагаўся зрабіць гэтае правы палітык У. Грабскі.

І яшчэ слоў некалькі пра бюлетэнь. „Беларускія Навіны" вельмі акуратна аформлены, прыемна ўзяць іх у рукі і прыемна пачытаць. Тут-там здараюцца карэктарскія недагляды, але мы мусім мець на ўвазе, што наборшчыкі каапературу „Przyszłość" у Бельску толькі практыкуюцца ў беларускім друку, у якім, пэўна, і іхняя будучыня. Максімюк ведае сваю выдавецкую справу.

**Алег Латышонак**

„Беларускія Навіны" можна набываць у клубах БГКТ у Бельску, Гайнаўцы і Беластоку ды ў рэдакцыі „Ніва". Цана — 2500 зл.




## ПОПЕЛ І ПАМЯЦЬ

З вялікім зацікаўленнем, але і абурэннем прачытаў я ў 18 нумары „Нівы" артыкул Яна Максімюка „Попел і памяць". Я, таксама як і аўтар, не адчуваю нянавісці да іншых нацый і вызнаўцаў іншых рэлігій. Дагэтуль я не ведаў, што такім лютым, варварскім спосабам распраўляліся ў нас, у Польшчы, з грамадзянамі іншых нацыянальнасцяў. Дык жа беларусы з Заняў жывуць на сваёй зямлі ад дзеда-прадзеда! Жах бярэ, калі падумаеш, што з-за нацыянальнай нянавісці з рук АКоўцаў з атраду „Бурага" былі застрэлены ў Занях 24 асобы ва ўзросце ад 4 да 83 гадоў.

У лістападзе 1986 г. у месячніку „Кантрасты" друкаваўся артыкул Ежы Славаміра Маца пра пагром яўрэяў у Кельцах у 1946 годзе. У ім аўтар дэталёва апісвае не толькі падзеі, але і прычыны злачынства. Такім жа спосабам трэба падыйсці і да злачынства на беларускім насельніцтве вёскі Зані. Аўтар, на маю думку, павінен яшчэ раз вярнуцца да гэтай тэмы і высветліць на падставе міліцыйнага архіва ў Беластоку прычыны і трагедыі і яе віноўнікаў. Можа, вінаватыя ў гэтым злачынстве з'яўляюцца членамі ЗБоВіД або іншага саюза ветэранаў?

Пашыраны архіўнымі доследамі артыкул павінен з'явіцца ў польскім друку (напрыклад, у „Кур'еры Падляшскім"), каб асудзіць віноўнікаў і ўшанаваць памяць загінуўшых.

Зараз у касцёлах ва ўсёй Польшчы адбываюцца набажэнствы за трагічна загінуўшых у пасляваенны перыяд. Чаму ж не адслужыць у цэрквах набажэнствы за замардаваных жыхароў Заньёў і іншых беларускіх вёсак? А можа такія багаслужбы былі?

(Прозвішча і адрас вядомы рэдакцыі)

## „ПАН" ЦІ „СПАДАР"

*(перадрукоўваем, захоўваючы правапіс арыгінала)*

У Беластоцкай „Ніве" зьявіліся разважаньні нашага Беластоцкага пісьменьніка, прафэсара і грамадзкага дзеяча А. Баршчэўскага (А. Барскі) аб досыць новым Беларускім тэрміне, запрапагаваным памёрлым Беларускім філёлагам драм Янкай Станкевічам: „спадар". „Новым" у Беларускай мове гэты тэрмін можна аднак назваць толькі адносна, бо ёсьць фактам, што выкапаў і прысвоіў яго Беларускай мове эмігрантаў др. Янка Станкевіч з „Аль Кітабу", рэлігійных рукапісаў Беларускіх Татараў, якія пісаліся ў сярэднявечнай Беларускай народнай мове, але Арабскім альфабэтам. Гэтае слова зчасам выйшла з ужытку на Беларусі ў сувязі з паявлічваючыміся Польскімі палітычнымі і культурнымі ўплывамі на Беларусі

(Працяг на стар. 5)




*Дом у Тыкоціне.*
*Мал. У. Петрука.*




## СУСВЕТНЫ ЦЭНТР ПЕРАПІСКІ БЕЛАРУСАЎ

Будучы ў камандзіроўцы ў Клічаве на Магілёўшчыне, гутарыў я з піянерважатай Дома піянераў Алай Шумскай. І тая запыталася, ці ёсць магчымасць неяк наладзіць перапіску яе піянерам з дзецьмі-беларусамі з замежжа. Падумалася: на самай справе! Што мы ведаем адзін аб адным? Акрамя таго, што дзесяці ёсць беларусы за мяжою. Але ж яшчэ ў 1935 годзе Алесь Мілюць пісаў аб беларускай моладзі:

Мы — маладое пакаленне,
Патомкі слаўных крывічоў.
Нясём Народу Адраджэнне,
Што спаў, прыгнечаны
з вякоў...

І далей:

Мы — Сонца — й Сонцам
мы жывём!
Штандар наш
бел-чырвона-белы
Прад светам горда
мы ўзнясём...

А чаму б нам не наладзіць перапіскі адзін з адным? А будзе магчыма — сустракацца. Хай юнакі і дзяўчаты, школьнікі, пішуць мне: для школьнікаў, для мяне, для іншых (толькі — з якімі людзьмі яны жадаюць перапісвацца, якія захапленні), а я дэкларую знайсці для кожнага сяброў па перапісцы. Дзякаваць Богу, час спрыяе нашаму гуртаванню, знаёмству.

Дапамажыце, калі ласка, у гэтым. Буду шчыра ўдзячны. Мо ўдасца наладзіць своеасаблівы „Сусветны цэнтр перапіскі беларусаў". І тых, хто вывучае толькі мову, але другой нацыянальнасці. Думаю, вартая задума.

Уладзімір Пучынскі
220600 г. Мінск
вул. Кастрычніцкая, 2-612

Сказалі мне, што баба Катрынка ўжо вельмі знядужала. Прабабка ўжо яна, 90 ёй мінула, праўнукі ўжо дарослыя. Бабка дагэтуль старалася ўсім дапамагчы — ці то грашыма з пенсіі, ці то звяжа за акулярамі рукавічкі, шкарпэткі... А цяпер гавораць, што з лыжачкі яе кормяць, і то не ідзе, і ўставаць ужо цяжка. Найчасцей сядзіць, абапертая на ўзбітыя падушкі. Сядзіць цэлымі днямі адна — усе на рабоце: хто ў полі, хто ў школе... Калі б чытаць умела, то што-лень пачытала б. Але не даў лёс у школу хадзіць. Такая была доля — ад малога рабіць, бо есці не далі б. Хто думаў сірату ў школу пасылаць?! Вечарам бабуля фільмы глядзіць, усе праграмы. Што ж, калі слух ужо не той...

Калі малой была, дзяцей любіла, хоць большыя заўсёды білі яе. А хто будзе бараніць залатушную, худую, вашавітую сіротку? Заўсёды горшая, брыдчэйшая, непатрэбная... А калі хто пахваліў малую і хацеў пагладзіць па галоўцы, заўсёды, нават ноччу, павязанай хустачкай, яна кідалася назад, як цюцік ад узнятага калка.

Неяк вырасла. Мачыха са здзіўленнем заўважыла, што з брыдкай шкарлупіны вылупілася здаровае, чыстае птушаня. Праўда, была крышку худавая, але прыгожая, ціхая, спакойная, паслухмяная...

Хутка выдалі замуж старэйшую сястру, хворую на сухоты, але чырвоную, здаровую, так што чужыя не ведалі, колькі ёй жыцця засталося. Пакінула двухгадовага хлопчыка, Ёзіка. Сказалі Катрынцы: ідзі за ўдаўца, добры чалавек, нябедны — на хутары, ды сястрынае дзіцяня пашкадуй, а то чужая яго змарнуе... І гаспадарка добрая: конь, каровы аж тры, каза, авечкі. Такое шчасце, можа, ніколі ўжо не спаткае...!

Кастэнты быў добры, працавіты. Крыху быў хворы — час ад часу мучылі яго страшэнныя болі галавы. У бежанстве ўдарыў яго конь і амаль не забіў.




Неяк вылізаўся, выдабрэў. З розумам усё добра, але, калі находзіў боль, Кастэнты падаў, дзе стаяў, і крычаў, схапіўшыся аберуч за чэрап. Катрынцы ніхто аб гэтым не сказаў. І вельмі спалохалася яна, калі на другую ноч пасля вяселля Кастэнты ўпаў ніцма на падлогу, схапіўшыся за галаву, і крычаў немым голасам. Бедная шаснаццацігадовая жонка расплакалася, а пасля пачала пяшчотна гладзіць галаву мужа і супакойваць.

Жылі добра. Нарадзілася чацвёра дзяцей. Людзі дзівіліся — Катрынка маленькая, худзенькая, а вынасіла трох дужманых хлопцаў і здаравяцкую дзяўчынку. Дзеці ўдаліся ў Кастэнтага — крутаплечыя, разважлівыя, кампанейскія. Катрынка, як Катрынка, — як заўсёды, крыху баялася людзей, але тут, на хутарах, не было іх шмат. Усе суседзі — як сваякі. Гадоў трыста назад нейкі Мелеш выдзер у пушчы кавалак чарназёму, збіў хату. Урадзіла зямля, урадзіла сям'я. Усе навакольныя вёскі — патомкі Мелеша, хаця, можа, у кожнага толькі па кроплі Мелешовае крыві. Гаварылі, што жонка Мелеша, Прузына, чарамі займалася і вылечыла аздараўляючым зеллем якогась караля ці князя. Гавораць, што гэты ўрослы камень за клуняй Кастэнтага выкацілі на памяць аб гэтым здарэнні, і штосьці на ім выкавалі. Але тады, калі прыйшла на хутар жыць Катрынка, надпіс быў заглыблены ў зямлі і нельга ўжо яго было прачытаць. А цяпер толькі вяршок каменя відаць, заўсёды халодны, нават у найгарачэйшыя дні. Катрынка любіла на камені адпачываць.

Над светам пралятала ночы і дні, зімы і вёсны. Зямля радзіла, адпачывала, разрывалі яе бомбы і плуг дзёр яе пладавітую скуру... Кастэнтага не ўзялі на вайну. Дапамагаў партызанам, а пасля іх вёску спалілі, як усе пушчанскія вёскі, і да канца вайны бадзяліся яны з дзецьмі і адной каровай. Але вярнуліся на свой хутар, дзе за абвугленымі рэшткамі клуні тырчэў халодны Прузынін Камень, які ўсё больш урастаў у зямлю.

# ПАМЯЦІ ЮРКІ ПОПКІ

**(ЯКІМ Я ЯГО БАЧЫЎ І ВЕДАЎ)**

Маё знаёмства з Ім пачалося ад перапіскі, калі быў я яшчэ студэнтам. Адрас прачытаў у „Ніве“. Здзіўляла мяне, што нехта яшчэ з заграніцы можа цікавіцца Беларуссю ці беларускай культурай. Мае першыя лісты, як Ён пісаў, „да глыбіні сэрца кранулі“ ўсе Яго „патрыятычныя пачуцці“. Гэта яшчэ больш уразіла мяне, тым больш, што, як мне здавалася, не было ў іх нічога асаблівага.

Перапіска працягвалася гадамі. Дзякуючы Яму, у маёй гістарычнай свядомасці ўваскрасаў, дэфармаваны і спрошчаны раней, больш аб'ектыўны погляд на беларускую гісторыю. Уражвалі перавыдаваныя Ім забытыя працы Усевалада Ігнатоўскага і Аляксандра Цвікевіча, а таксама іншыя. Попка нічога не накідаў у сваіх поглядах іншым. Ягонымі аргументамі былі выдаваныя працы, а яны прамаўлялі наймацней. Такім чынам развейваўся ў маёй свядомасці сталінскі міф пра „нацдэмаўшчыну“, які паслужыў прыдуманай прычынай расправіцца з беларускай інтэлігенцыяй у няслаўныя трыццатыя гады. Развейваліся і іншыя, таксама і сучасныя міфы.

Ішлі гады. Неўзабаве, у 1984 г. Попка запрасіў мяне наведаць Яго і Ягоны Музей, якім, як мне здаецца, толькі і жыў Ён у апошнія гады свайго жыцця. Асаблівае ўражанне зрабіла тады на мяне Пагоня, якая знаходзілася ў Музеі. Раней, нягледзячы на славуты верш пад гэтым жа загалоўкам Максіма Багдановіча, ці тое, што ўвесь час знаходзілася яна ў гербе Беластока, ніяк не атаясамлівалася яна ў маёй свядомасці з беларушчынай. Затым, шматлікія беларускія выданні ў Ягоным Музеі.

Усё гэта было для мяне адкрыццём і моцна ўражвала, як і сама асоба Юркі Попкі. Ягоная нацыянальная бескампраміснасць аж да вострага болю. У глыбокай Нямеччыне і ў самым Сант-Ільгене каля Ляймена ўсе немцы ведалі, што Ён беларус.

На мае першыя ўражанні („Але багата ў вас жывуць!“), Попка адказваў: „Ёсць і бедныя“. Бедным у параўнанні з іншымі быў і сам Юрка Попка, але з Ягоным духоўным багаццем мала хто мог бы зраўняцца.

Сапраўды, колькі ж трэба было руплівасці і усялякіх „захадаў“, каб тут, у глыбіні Нямеччыны, даказаць, што ў свеце жывуць таксама і беларусы. Каб дасягнуць гэтай мэты, Юры Попка аддаваў на тое ўсю сваю зарплату. І не толькі аддаваў, але і запрашаў да сябе шмат каго з беларусаў. Па сваёй натуры, як мне здаецца, быў чалавекам добрым, хоць чуллівым і ўражлівым наконт аднаго: патрыятызму. І гэтым перш за ўсё „мераў“ чалавека. Калі ты не патрыёт сваёй зямлі, значыць, які з цябе чалавек?

Было ў Ягоных поглядах нямала і супярэчнасцяў, як і таго, з чым нельга было не спрачацца. Не ўсім і ў Нямеччыне падабалася Ягоная беларуская дзейнасць. Маўляў, калі ты прапагандуеш беларускую культу-

(Працяг на стар. 7)



Па-суседску жылі Калітнікі. У іх вайна многа забрала: трох сыноў дарослых, аднаго падшпарка і дзеўку (прапалі дзесьці на работах у Германіі). бацьку нагу адрэзалі пасля ранення, дзеда кантузіла. Адна дачка вярнулася з Германіі, Надзейка, і яна была ўсёй іхняй надзеяй.

Катрынка сябравала з Надзейкай. Дзяўчына, вёрткая весялушка, прыліпла да гэтай сур'ёзнай, лагоднай жанчыны. Не мела перад ёю ніякіх таямніц, прасіла парад у розных справах.

Да Надзейкі сваталася многа хлопцаў. Найбольш спадабаўся ёй Пранцішак. Паўгода „гулялі“, хаця Пранцішак намагаўся, каб хутчэй ісці пад вянец. Бедны быў — зямлі нямнога, ды і тая зарасла лазой недзе пад Міхаловам, — але здаровы, высокі, сінявокі — прыгожы, як васілёк у збожжы. Катрынка раіла Надзі: „Не спяшайся. Калі кахае, пачакае. Будзеце яшчэ разам усё жыццё. Толькі не падайся яму, а то, як усе мужыкі, возьме ды пойдзе“.

Надзейка з Пранцішкам і Катрынкай часта сядалі разам на халодным камені на загуменні. Гутарылі. Пранцішак скручваў махорку, курыў. Збіраліся да вяселля. Катрынка, як вопытная жанчына, перасцерагала, раіла. Часам да поўначы працягваліся размовы Катрынкі з маладымі.

Пранцішак проста насіў жонку на руках. Мінула некалькі гадоў, нарадзіліся дзеці, а яны — як раней, хадзілі пад ручку ці то на луг, ці ў поле...

Здарылася гэта, калі старэйшаму сыну споўнілася тры гады. Пранцішак страшна пабіў Надзейку. Пасля гэта паўтаралася часта. Крычаў, што ўсе трое дзяцей — не яго. Біў посуд і вокны, рубаў лаву, ганяў жонку з паленам. Рэха ад крыкаў і плачу Надзейкі і дзяцей адбівалася ад сцяны лесу, які акружаў іх хутар.

Надзейка развялася з Пранцішкам. Засталася на гаспадарцы з малымі дзецьмі, хворай маці, глухім дзедам і бязногім бацькам... Памерла ў 1978 годзе, пры сенаванні...

Я наведаў хворую Катрынку. Заўсёды называў яе „бабай“, як усе навакольныя дзеці называюць старэйшых жанчын. Колькі памятаю, яна заўсёды была старэнькай: маленькая, сухенькая бабулька з сарамлівай усмешкай і добрымі вачыма.

Вясна. За вокнамі высокае сонца. Я завешваю занавескі, каб не свяціла ў вочы бабы Катрынкі. Даю ёй шклянку з кампотам.

— Ай, Лукашыку, як добра, што ты зайшоў, паміраць збіраюся, а тут нікога няма, нават Мурка выйшла. Паміраю, цяжка паміраць, хоць нажылася ўдосталь. І радасці, і гора... — бабуля цяжка глытае напітак. — Лукашыку, а камень яшчэ відзён? Не ўлез пад зямлю? Думала, што перад смерцю... пасяджу на ім, паспавядаюся, а то... цяжка паміраць...

— Можа, я збегаю па бацюшку...?

— Што ж чалавек можа зрабіць для чалавека, калі грэх цяжкі, як камень, на сэрцы ляжыць!

Бабка адкрыла вочы. Раней мутныя, цяпер глядзелі на мяне прытомна і пранікнёна.

— Скажу табе. Хай Бог мне прабачыць... за тое, што я Надзейцы лёс знішчыла... Завязала канапляны вузел... у дзень шлюбу ў царкве... Разрэзала нажніцамі... гартаванымі... у свянцонай вадзе над Каменем, спаліла і рассыпала на ўвесь свет... І так яе долечка рассыпалася. Прабач мне, Надзейка... за тое, што шчасця табе пашкадавала... Што Пранцішка на камень вадзіла і арнікай паіла... Так ён мне да сэрца прыпаў, прыліп... І свет не той стаў, і сонца не тое... Пранцішку...!

Катрынка схапіла маю руку, пацягнула да сябе. Сухая, жылістая, ушчаперылася ў мае пальцы.

— Пранцішачку, буду цябе чакаць на тым свеце... Надзейка ў небе, а мы разам... Згарым разам... Як нам разам добра будзе...

Я вырваў руку з халадзеючай Катрынчынай рукі, кінуўся ў дзверы, мала не вырваўшы іх з вушака.

... Гавораць, бабка Катрынка ўжо без памяці ляжыць.

А камень халодны, амшэлы з паўночнага боку, амаль схаваны ўжо ў жывую зямлю... Колькі ўсяго ён памятае? Але не скажа... На тое ён і камень.

Лукаш Баравіцкі




(Працяг са стар. 4)

пераняцьцем ад Палякоў замест тэрміну „спадар“ — слова „пан“.

Прапанаваны драм Я. Станкевічам стары Беларускі тэрмін „спадар“ не прыняўся на Зах. Беларусі пад Польшчай, хутчэй з палітычных прычын, бо Янку Станкевіча ня гледзячы на ягоны нацыяналізм лічылі палянафілам, прычым найвялікшая на З. Беларусі палітычная плынь, якая ахоплівала хіба якіх 60—70% ўсяго насельніцтва — Грамадаўская плынь прытрымоўвалася нашанiўскай тэрміналёгіі. У зваротах і перапісцы ўжывана старога сялянскага тэрміну: „дзядзька“, „цётка“, каліж да малодшага, роўнагодняга: „браток“, „браце“, „сястрыца“, „сябра“. Пасьля Першае Сусьветнае вайны і камуністычнага перавароту, гэтыя тэрміны пачалі зьнікаць пад Саветамі прымусова, а ў Беларусі, пераняўшы Польскай „пан“, ужо да таго бытаваўшы на Беларусі, хоць і ў вузейшым сэнсе. Грамадаўская плынь і далей амальшто да Другой вайны карысталася старым тэрмінам: „дзядзька“, „цётка“, „браток“ і г. п. Пасьляваенны выхад за мяжу Беларусі зьмяніў склад Беларускае грамадзкасьці. Панаваньне над гушчай Беларускай шэрай масай уцекачоў, ці то зпачатку ў УНРАўскіх лягерах у Нямеччыне, ці потым у краях асяленьня перайшло ў рукі нацыяналістычных груп, сярод якіх апынiўся і ініцыятар прывярненьня Беларускай мове закіненага тэрміну „спадар“ замест „пан“. У іх руках аказаліся і сродкі друкаванага пераказу. Зразумела гэта спапулярызавала выкапанае др. Янкай забытае архаічнае Беларускае слова „спадар“, процiў чаго ня мелі вялікшых падставаў выступаць і апынiўшыяся за мяжой астаткі Грамадоўцаў (Двупагоньнікаў). („сябра“ ўжываны ў Грамадаўскіх колах, — гэта тэрмін так казаць унутраны і адпавядае тэрмінам: „калега“, „прыяцель“, „таварыш“ у іншых мовах і між іншым пераняты Беларусамі ад Жыдоў, бо гэбрэйскае „шабра“ абазначае „зямляк“, інач кажучы: тутака народжаны (у Палестыне). Трэба дадаць аднак, што тэрмін „спадар“ не пераняты цалкам усёй Беларускай эміграцыяй. Гэтак званая „бэцээраўская“ плынь — астроўшчыкаў ў процідзеяньні „абрамчыкаўцам — псэўдабэнэраўцам“ высунулі з помыслу іх правадыра Радаслава Астроўскага свой тэрмін замены слова „пан“ на народнасялянскае: „гаспадар“ — „гаспадыня“, які і сяньня яшчэ ўжываецца ў іхных вельмі рэдкіх выданьнях і выступах.

**др. Я. Галейка**

**(„Беларускі Голас“ № 355, Таронта, май 1990)**

# Артысты з Віцебска

У палове мая пабывалі на Беласточчыне госці з Віцебска: артысты віцебскага тэатра імя Якуба Коласа. Прыехалі сюды па прыватнаму запрашэнню дзеячоў БГКТ. Сувязі паміж Беласточчынай і Беларуссю пашыраюцца і мацуюцца, але часта, як у гэтым выпадку, дзякуючы намаганням і самаахвярнасці прыватных асоб...

Артыстаў было пяцёра: акцёры Таццяна Мархель, Рыгор Шацька і Алесь Лабанок, рэжысёр Валеры Мазынскі, музыкант Генадзь Шэмет — лідэр маладзёжнага гурта „Грамада“ з Віцебска. Тыдзень свайго побыту на Беласточчыне госці правялі надзвычай працавіта. 11 мая паказалі сваю праграму ў Гарадку, 12 мая — у Беластоку, 13 мая — у Нарве і Белавежы, 14 мая — у Орлі і Бельску. Часу на перадышку амаль што не было.

Таццяна Мархель і Рыгор Шацька бавілі гледачоў сцэнічным жартам Л. Родзевіча „Конскі партрэт“ ажно да ўпаду. Рагаталі і старыя, і малыя. І дзядзькі з Гарадка, і ліцэісты з Бельска, і школьнікі з Орлі. Алесь Лабанок знакаміта чытаў вершы Караткевіча — ёсць чаго навучыцца нашым маладым дэкламатарам з бельскага „Парнасу“. Дарэчы, „парнасісты“ пасля выступлення віцебскіх артыстаў у Бельску наладзілі з імі сустрэчу ў клубе БГКТ, чыталі вершы, спявалі пад гітару. Генадзь Шэмет са сваім электронным піянінам адразу заваяваў прызнанне маладой публікі. БГКТ паруплілася, каб віцебская „Грамада“ паявілася на фестывалі беларускай песні ў Беластоку. БАС са свайго боку запрасіў „Грамаду“ на „Басовішча“ ў Гарадок. Вось што называецца артыстычны поспех!

Будзем чакаць новых сустрэч з віцяблянамі.

**Ян Максімюк**

*Фота Яніны Чэрнякевіч*




*Таццяна Мархель выконвала народныя песні ў суправаджэнні Генадзя Шэмета (гітара) і Валерыя Мазынскага (з валкаўніцай).*



*Алесь Лабанок знакаміта чытаў вершы Караткевіча.*

# ЗА ДЭМАКРАТЫЮ

(Працяг са стар. 1)

валася ў беларускае жыццё, якая вынішчыла гонар і цвет нацыі — інтэлігенцыю, якая ўдарыла па вытворчых сілах нацыі, знішчыўшы сялянства ў перыяд так званай калектывізацыі. Сталіншчына абышлася нам дзесьці ў 2 мільёны жыццяў, дадайце да гэтага 2,5 мільёна ахвяраў гітлераўскай акупацыі... Ці не замнога для дзесяцімільённага народа? Здаецца, цяжка знайсці на свеце нацыю, якая б перажыла за 70 гадоў такія страшныя катаклізмы. Так што сёння ў нашым грамадстве ідзе збіранне выбуховых рэчываў, якія могуць прывесці да нечаканых рэакцый.

*„Ніва“: Ці ў сувязі з гэтым не існуе пагроза гвалтоўнай змены палітычнай сітуацыі на Беларусі, пагроза вайсковага перавароту і дыктатуры?*

**Міхась Ткачоў:** Гэта залежыць ад сітуацыі ў Маскве. Я не думаю, каб у нас адбыўся нейкі вайсковы пераварот, пакуль у Маскве будзе такое статус-кво, якое там усталявалася. Ніхто на Беларусі з гэтых начальнікаў не рызыкне пайсці на самагубства. А тое, што перабудове ёсць альтэрнатыва, то сумненняў няма. У нас краіна мілітарызму, гэтыя палкоўнікі і генералы могуць змяніць усё за адну ноч...

**Юры Хадыка:** Я прытрымліваюся іншага меркавання. Зараз вайсковы пераварот ні ў цэнтры, ні тым больш на перыферыі ў Савецкім Саюзе, — немагчымы. Стан нашай эканомікі настолькі дрэнны, што ўсялякі пераварот мусіць давесці да эканамічнага краху. Можа палкоўнікі гэтага не разумеюць, але генералы ўжо так. Будзе працягвацца спроба скансалідаваць сілы наменклатуры, прыдушыць галоснасць і свабоду дэмакратычнага руху. Такая палітыка складалася за апошнія гады, і яна аднолькавая што да Беларусі, што да Масквы. Кампартыя спрабуе змяніць знешні воблік, яна шукае нейкай маскі: то дэмакратычная платформа, то сацыял-дэмакратычная, то марксісцкая. Яна зараз у стане разгубленасці, а гэта перашкаджае рашучым крокам.

А вяртаючыся да ролі Чарнобыля, я хацеў бы коратка нагадаць асноўныя этапы змагання БНФ за ўсведамленне народам праўды пра гэтую страшную бяду. Першай масавай акцыяй, якая звярнула ўвагу грамадскасці, быў праведзены на плошчы Леніна мітынг у трэцюю гадавіну Чарнобыля (26 красавіка 1989) — гадзіна маўчання. Потым вялікае значэнне мела сустрэча камісіі па вывучэнню вынікаў Чарнобыля з навукоўцамі Беларусі, якая транслiравалася на ўсю рэспубліку. Мы ўсе сталі сведкамі зняважлівых адносін з боку атамнага лобі да бяды Беларусі. Мы на гэта адгукнуліся экалагічным мітынгам (ліпень 1989) напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савета. Гэта было ў час, калі партбюракратыя паспрабавала ўскласці ўсю адказнасць за бяду на навукоўцаў. Разумеючы, што далей будзе разыгрывацца гэтая палітычная карта, мы арганізавалі экспедыцыі ў пацярпелыя раёны, запісалі сведчанні жыхароў, запрасілі людзей з тых раёнаў на акцыю „Чарнобыльскі шлях“, якая праводзілася ў Мінску 30 верасня. Упершыню праз горад прайшла калона каля 40 тысяч людзей, пратэстуючы супраць абыякавасці кіраўніцтва рэспублікі да бяды свайго народа. Мы правялі Чарнобыльскую асамблею, на якую запрасілі навукоўцаў. Тады ўпершыню народ даведаўся, што ёсць выпадкі генетычных мутацый, нараджэння дзяцей-мутантаў. Выбарчая кампанія чарнобыльскую праблему зрабіла ўсенароднай. У студзені ў Мінск прыехалі прадстаўнікі Нароўлі, у лютым — Брагіна і Веткі. Сталі пікеты перад Домам урада. Урэшце, у Гомелі, 23 сакавіка, былі створаны забастовачныя камітэты. Забастоўка адбылася. Гомель арганізаваўся, каб даць адпор абыякавасці і безгаспадарнасці кіраўніцтва. Назбіралася шмат сведчанняў, што сродкі для пацярпелых выкарыстоўваліся

## ПАМЯЦІ ЮРКІ ПОПКІ

**(Працяг са стар. 5)**

ру, значыць, ты камуніст (адкуль мы гэта ведаем?). Прыйшлося (пасля даносу) і пацярпець за тое крыху ў нямецкім арышце (ці турме?). Нішто аднак не магло Яго паўстрымаць ад патрыятычнай дзейнасці. Крытыкавалі Попку і суайчыннікі, як з Захаду, так і з Усходу, аднак ніхто не наважыўся „падарваць" зробленага.

Я далёкі ад ідэалізацыі Юркі Попкі. Я не ведаў Яго бліжэй, не ведаў, чым Ён раней займаўся. І, праўду сказаўшы, не цікавіўся гэтым.

— Жыццё не такое простае, — сказаў Ён мне аднойчы, і гэтага хапіла мне, каб разумецца без слоў.

Мы былі выхаваныя ў супрацьлеглых палітычных сістэмах, у атмасферы недаверу і падазронасці. Попка ў сяброўстве не рабіў ідэалагічных размежаванняў. Будзь ты, кім хочаш, але заўсёды будзь патрыётам сваёй зямлі.

Мы развіталіся з ім 24 ліпеня 1984 г. падвечар на вакзале ў Гайдэльбергу. Праводзіў мяне таксама і ягоны сябра харват. Як пасля аказалася, развіталіся назаўсёды.

**Юры Трачук**

## СТУДЭНЦКАЯ ЗАБАСТОЎКА

**Баставалі студэнты Мінскага інстытута культуры. Як паведаміла „Звязда", палавіна групы дырыжораў акадэмічных хораў на выпускным экзамене па беларускай літаратуры атрымала незадавальняючыя ацэнкі, а група харэографаў наогул адмовілася яго здаваць. Студэнты аб'явілі папераджальную забастоўку і, калі не будуць задаволены іх патрабаванні, пагражаюць галадоўкай. Пратэстуюць яны не супраць беларускай мовы і літаратуры, а супраць таго, як выкладаецца гэты прадмет у інстытуце. Бастуючыя патрабуюць адхіліць ад работы са студэнтамі дацэнта Анатоля Майсеенку, якога абвінавачваюць у тым, што ён не церпіць любога праяўлення іншадумства, здзекуецца са студэнтаў, не паважае іх і абражае (размаўляючым па-руску раіць пераехаць у РСФСР, туды, дзе гавораць на „вялікім і магутным"), прыніжае чалавечую годнасць (на лекцыі камандуе: „Устаць! Сесці!").**

**На экстранным пасяджэнні вучонага савета выкладчыкі аднагалосна падтрымалі патрабаванні студэнтаў. Для прыёму экзамена назначаны іншы выкладчык. Студэнты вырашылі працягваць забастоўку да таго часу, пакуль А. Ф. Майсеенка не будзе адхілены ад работы ў ВНУ.**

**(л)**




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА 1928 Г.**

— 20 —

Вышэй прыведзеная адозва была расплакатавана ў Мінску на беларускай і рускай мовах. Назаўтра, г.зн. 22 лютага, калі немцы занялі Мінск, на сценах Мінска быў разлеплены спісак з поўным складам Народнага сакратарыяту. Прадстаўнікі беларускіх правых Скірмунт і Алексюк прывіталі немцаў на вакзале. За гэты ўчынак Алексюк быў выключаны з Рады з'езда.

Нямецкая акупацыя аказала ўплыў на развіццё беларускай справы. Перш за ўсё, беларускія землі аказаліся аб'яднанымі, а нямецкая армія адгарадзіла іх ад былой рускай улады. Нямецкія ўлады не прызнавалі беларускага ўрада. 25 лютага 1918 года акупацыйныя ўлады занялі на ўласныя патрэбы дом губернатара, у якім знаходзіўся Народны сакратарыят, сканфіскавалі касу з грашыма, адабранымі ў нейкага ўцякаючага народнага камісара, знялі беларускі штандар, замяняючы яго нямецкім і прымусілі Народны сакратарыят пакінуць будынак.

Пратэст Народнага сакратарыята застаўся без водгуку. Праўда, немцы не распусцілі Выканаўчы камітэт і Народны сакратарыят, але зусім з імі не лічыліся і не дазвалялі на найменшую праяву дзейнасці на вонкі. Суровая кара за ўдзел у недазволеных сходах, абмежаванні кантактаў з правінцыямі прычыніліся да таго, што ўвесь Народны сакратарыят стаў фікцыяй. Уся Беларусь была падзелена на тры часткі, а насельніцтва, якое жыло ў гэтых частках, не мела магчымасці кантактавацца між сабой.

Акупацыйныя ўлады прыступілі да рабунковай эксплуатацыі краіны, зусім не лічачыся з патрэбамі акупаванай тэрыторыі.

### РАЗДЗЕЛ XII

**Дзейнасць Выканаўчага камітэта Рады Першага ўсебеларускага з'езда ў часе акупацыі нямецкай. Далучэнне земстваў да камітэта. Устаўная грамата ад 9 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Нягледзячы на суровыя нямецкія забароны, члены Выканаўчага камітэта збіраліся тайным спосабам на нарады. У гэтым жа часе Народны сакратарыят не праяўляў ніякай дзейнасці. Праявай дзейнасці Выканаўчага камітэта было далучэнне да яго земстваў і гарадскіх самаўрадаў. Абедзве арганізацыі з прарускай арыентацыяй увайшлі ў дамоўленасць з Выканаўчым камітэтам, кіруючыся надзеяй, што стварэнне сільнай краёвай арганізацыі спыніць нямецкую самаволю. Выканаўчы камітэт, дзякуючы такой кансалідацыі, пачуў сілу і пачаў імкнуцца да вырашэння палітычнага лёсу Беларусі. З гэтай мэтай 9 сакавіка 1918 г. была аб'яўлена II Устаўная грамата, якая акрэслівала як дзяржаўную сістэму, так і ў галоўных пунктах канстытуцыю.

„У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабаняе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 5—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і баронячы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.

4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў: бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асоб і памешканьня.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзіновы рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пілнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Устаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і адказнай нашай працы.

**Спаўняючы Камітэт Рады 1-га Усебеларускага Зьезду. Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року."**

*(Працяг будзе)*

бязглузда, што злачынствам з'яўляецца не толькі штучна створаная палаcа засакрэчання вакол Чарнобыля, але злачыннае і марнатраўства шматмільённых сродкаў на дапамогу ахвярам Чарнобыля. Таму народ патрабуе ад нас прыцягнення да судовай адказнасці вінаватых гэтага.

*„Ніва": Ці ёсць намеры комплексных эканамічных зменаў на Беларусі, пераходу ад цэнтралізаванай да рыначнай гаспадаркі?*

**Юры Хадыка:** Пра рынак у нас пакуль што не размаўляюць, ідзе толькі гутарка пра эканамічную самастойнасць, гэта значыць, пра такую паварахоўную эканамічную рэформу, якая перадала б права размеркавання тавараў з Масквы ў Мінск. Зразумела, што гэта быў бы вялікі крок наперад, бо сёння Беларусь з'яўляецца калоніяй Савецкага Саюза. Нам пастаўляюць энергію і сыравіну, а мы даем прадукцыю, гандлюем рабочай сілай, вывозім звыш 90 працэнтаў найбольш канкурэнтназдольных тавараў: халадзільнікі, тэлевізары, гадзіннікі, бытавую тэхніку. Гэта ненармальнае становішча. Загаварылі на Беларусі пра свае грошы, як пра нейкі бар'ер супраць эканамічных хвароб Саюза.

**Міхась Ткачоў:** Заданне ў тым, каб наша эканамічная структура не рассыпалася пад уздзеяннем тых працэсаў, якія праходзяць у Саюзе. Каб захаваць нейкі гаспадарчы комплекс непарушным. Заключаюцца гандлёвыя дамовы з рэспублікамі без пасрэдніцтва Масквы. Я думаю, што непасрэдныя сувязі з Польшчай — гэта для нас будзе таксама выйгрышная справа ў эканоміцы.

**Юры Хадыка:** Я хацеў бы зазначыць, што лёс эканамічнай рэформы будзе залежаць ад стану сельскай гаспадаркі. З прыемнасцю трэба адзначыць, што пад уплывам дэмакратычных зрухаў у канцы мінулага года быў створаны ў нас незалежны Сялянскі саюз Беларусі. Ён гуртуе людзей, якія хочуць завесці прыватную гаспадарку, перабудаваць сельскагаспадарчыя адносіны. У гэтым плане мы можам таксама спадзявацца на кансультацыйную дапамогу з боку беластоцкіх беларусаў. Таму што тут прыватная гаспадарка жыве, людзі маюць вопыт.

*„Ніва": Якая мэта вашага прыезду ў Польшчу? І як вам падалося наша беларускае палітычнае тут жыццё, мяркуючы па пасяджэнні Галоўнай рады і Краёвай управы БДА?*

**Міхась Ткачоў:** Мэта нашага прыезду — удзел у міжнароднай канферэнцыі ў Варшаве, прысвечанай дэмакратычным зменам ва Ўсходняй і Цэнтральнай Еўропе. Мы запрошаны на яе як прадстаўнікі дэмакратычнага руху, які мае перспектывы развіцця. Мы прынялі ўдзел у палітычным семінары. Што датычыцца ўражання ад сённяшняй нашай сустрэчы, то яно надзвычай добрае. Перш за ўсё я хацеў бы адзначыць, што ў вас шмат маладых талковых людзей у Аб'яднанні. Уражанне таксама добрае ад таго, што вы дасягнулі вынікаў на выбарах, якія робяць вам гонар. Што ж да недахопаў, дык паўсюды яны падобныя: усе хочуць выказацца, і ўсё адразу. Гэта хвароба росту. Палітычная рафінаванасць прыйдзе з часам. У вас гэта будзе вельмі хутка. Мы са свайго боку будзем рабіць усё, каб вам дапамагчы.

**Юры Хадыка:** Ёсць у нас і другая мэта. Пасля заканчэння канферэнцыі мы запрошаны польскім Сенатам, каб правесці ўступныя перамовы на тэму ўзаемаадносін Польшчы і Беларусі. Трэба адзначыць належнае прадстаўнікам „Салідарнасці", якія звярнуліся да БНФ у той жа дзень, калі змянілі ў Мінску папярэдняга камуністычнага консула на прадстаўніка новага ўрада. Ужо тады на Беларусі была дэлегацыя ад Сената. Мы падкрэслілі сваю зацікаўленасць вырашэннем праблемаў беларусаў на Беласточчыне, яны гаварылі аб становішчы палякаў у Беларусі. Ёсць аб чым пагаварыць. Тым больш, што БНФ, як рух апазіцыйны, спадзяецца на дапамогу. У нашай дзейнасці мы павінны ўлічыць і вопыт „Салідарнасці".

Мы ўдзячны сябрам БДА за канкрэтную пастанову пытанняў адносна праблемаў беларусаў на Беласточчыне, якія мы намераны абмеркаваць з прадстаўнікамі „Салідарнасці".

*„Ніва": Сардэчнае дзякуй за размову.*

**Інтэрв'ю ўзяў Ян Максімюк**

# НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**9. Лічэбнік — працяг.**

ЗБОРНЫЯ ЛІЧЭБНІКІ. Абазначаюць пэўную колькасць прадметаў як адно цэлае. Утвараюцца ад колькасных лічэбнікаў пры дапамозе суфіксаў: -о- (*двое, трое*), -ёр- (*пяцёра, сямёра*), -ер- (*дзевяцера, дванаццацера*).

Лічэбнікі гэтыя ўжываюцца з назоўнікамі, якія:
— маюць форму толькі множнага ліку (pluralia tantum): *суткі, вароты, дзверы*, або абазначаюць парныя прадметы: *лыжы*,
— абазначаюць маладыя істоты: *дзіця, кураня, ягня*,
— абазначаюць асоб мужчынскага полу: *вучань, настаўнік, салдат*,
і з некаторымі іншымі назоўнікамі напр., *людзі, гусі, коні*.

Да зборных належаць лічэбнікі *абодва* (мужчынскага і ніякага роду), *абедзве* (жаночага роду), *абое* (для абазначэння асоб мужчынскага і жаночага полу).

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *двое* | *пяцёра* | *дзевяцера;* | *абодва* | *абедзве* |
| Р. | *дваіх* | *пецярых* | *дзевяцерых;* | *абодвух* | *абедзвюх* |
| Д. | *дваім* | *пецярым* | *дзевяцерым;* | *абодвум* | *абедзвюм* |
| В. | | | = Н. або Р. | | |
| Т. | *дваімі* | *пецярымі* | *дзевяцерымі;* | *абодвума* | *абедзвюма* |
| М. (аб) | *дваіх* | *пецярых* | *дзевяцерых;* | *абодвух* | *абедзвюх* |

ДРОБАВЫЯ ЛІЧЭБНІКІ. Абазначаюць частку цэлага (*чатыры восьмыя*) або цэлае і частку яго (*шэсць цэлых сем сотых*). Утвараюцца з колькасных лічэбнікаў (у лічніку) і парадкавых (у назоўніку). Калі ў лічніку знаходзяцца лічэбнікі *два-чатыры* — парадкавыя лічэбнікі ў назоўніку павінны быць у форме назоўнага склону множнага ліку (*тры пятыя, пяцьдзесят чатыры тысячныя*), а калі ў лічніку выступаюць лічэбнікі *пяць-дзевяць* — парадкавыя лічэбнікі ў назоўніку павінны стаяць у форме роднага склону множнага ліку (*пяць сёмых, дваццаць дзевяць сотых*).

| | |
|---|---|
| Н. | *пяць цэлых тры пятыя; чатыры цэлыя пяць сёмых* |
| Р. | *пяці цэлых трох пятых; чатырох цэлых пяці сёмых* |
| Д. | *пяці цэлым тром пятым; чатыром цэлым пяці сёмым* |
| В. | *пяць цэлых тры пятыя; чатыры цэлыя пяць сёмых* |
| Т. | *пяццю цэлымі трыма пятымі; чатырма цэлымі пяццю сёмымі* |
| М. (аб) | *пяці цэлых трох пятых; чатырох цэлых пяці сёмых* |

Дробавыя лічэбнікі патрабуюць пасля сябе назоўніка роднага склону. *адна другая тоны, пяць дзевятых кілаграма, дзве трэція студэнтаў, тры чацвертыя сялян.*

Да дробавых лічэбнікаў належаць лічэбнікі *паўтара* (мужчынскага і ніякага роду) і *паўтары* (жаночага роду). Гэтыя лічэбнікі ва ўсіх склонах маюць аднолькавыя формы.

„Пры лічэбніках *паўтара, паўтары* назоўнік ужываецца ў адзіночным ліку (*паўтара гектара*), а ва ўскосных склонах (за выключэннем вінавальнага) прымае форму множнага ліку (*паўтара гектарамі*); у родным склоне ўжываюцца абедзве формы — адзіночнага і множнага ліку (*паўтара рубля* і *паўтара рублёў*).

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *паўтара (кілаграма, вядра)* | *паўтары (тоны)* |
| Р. | *паўтара (кілаграма, вядра; кілаграмаў, вёдраў)* | *паўтары (тоны, тон)* |
| Д. | *паўтара (кілаграмам, вёдрам)* | *паўтары (тонам)* |
| В. | *паўтара (кілаграма, вядра)* | *паўтары (тоны)* |
| Т. | *паўтара (кілаграмамі, вёдрамі)* | *паўтары (тонамі)* |
| М. (у) | *паўтара (кілаграмах, вёдрах)* | *паўтары (тонах)*[1] |

ПАРАДКАВЫЯ ЛІЧЭБНІКІ. Паказваюць на парадкавы нумар прадмета і адказваюць на пытанне *каторы?* (які?). Утвараюцца ад колькасных лічэбнікаў: *пяць-пяты, дванаццаць-дванаццаты, сто-соты;* могуць мець суплетыўныя асновы (*адзін-першы*). Калі ўтвараюцца ад састаўных лічэбнікаў, змяняецца толькі апошняе слова: *трыста сорак восем — трыста сорак восьмы.*

Па сваіх марфалагічных і сінтаксічных прыметах набліжаюцца да прыметнікаў: так як прыметнікі дапасуюцца да назоўніка ў родзе, ліку і склоне (*другі дзень, другое лета, другая вясна: другія дзверы*), а ў сказе выступаюць у функцыі азначэння: *У цёмным небе засвяціліся першыя зоркі* (В.В.).

Парадкавыя лічэбнікі скланяюцца так, як прыметнікі. У састаўных парадкавых лічэбніках змяняецца толькі апошняе слова.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *другі* | *сёмы* | *пяцьдзесят восьмы* |
| Р. | *другога* | *сёмага* | *пяцьдзесят восьмага* |
| Д. | *другому* | *сёмаму* | *пяцьдзесят восьмаму* |
| В. | | = Н. або Р. | |
| Т. | *другім* | *сёмым* | *пяцьдзесят восьмым* |
| М. (аб) | *другім* | *сёмым* | *пяцьдзесят восьмым* |

Многія мовазнаўцы парадкавыя лічэбнікі разглядаюць як разнавіднасць прыметнікаў.

---

[1] М.С. Яўневіч, Лічэбнік, Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф.М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 112.



# ВЕР-НЕ-ВЕР

Маёй супрацоўніцы прысніўся пра мяне нядобры сон. Быццам бы прыйшла я на работу, але ўзяла з сабою сваіх дзяцей. І дзеці нарабілі ў нашым пакоі такога балагану, што тая супрацоўніца аж жахнулася, бо напрыносілі столькі цацак, нейкіх лялек, мішак і розных іншых дробязей. Спачатку яна думала, што я маю намер гэтым усім барахлом гандляваць, а пасля вырашыла, што гэта проста дзеці гэтак усяго назбіралі. І тады надумалася пайсці да нашай прыбіральшчыцы і папрасіць у яе мятлу, каб усё гэта замесці. Але пасля яна падумала, што не варта хадзіць, хай ужо так усё і застанецца, можна ж будзе прыбраць пазней. Астроне, ці сапраўды гэты сон абазначае для мяне нешта кепскае?

**Аліцыя**

Аліцыя! А вось і няпраўда. Гэты сон абазначае проста перамену дому, кватэры або месца працы, а гэта не заўсёды адбываецца ў кепскім напрамку.

**Астрон**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, растлумач мне, калі ласка, дзе ёсць сяброўства і дзе пачынаецца чорт ведае што.

Ёсць у мяне знаёмая пара. Жывуць разам, аднак, без шлюбу. Калі я глядзела на іх, мне заўсёды здавалася, што спалучае іх вельмі гарачае пачуццё. Гэта ж падумаць: людзі жывуць без шлюбу, а так згодна ўжо цэлых пяць гадоў. Ніколі я ў іх не пыталася, чаму яны не хочуць быць мужам і жонкай. Але заўсёды думала сабе, што, відаць, ім так добра. Жывем мы ў розных гарадах, але сустракаемся даволі часта. Тое, аднак, што перажыла я ў апошні час у сувязі з візітам у іхнюю хату, мяне засмуціла і насцярожыла.

Я прыехала са свайго горада ў Беласток раніцай. Аформіўшы ўсе справы, якія я запланавала на гэты дзень прабывання ў сталіцы нашага ваяводства, я вырашыла яшчэ пазваніць да маіх сяброў. Неяк так злажылася, што і яго, і яе я ведала даволі доўга, яшчэ перад тым, як яны пачалі жыць разам. Трубку падняў гаспадар. Пытаюся, што ў іх чуваць, а ён мне ў адказ: „Дзе ты?“ Я адказваю, што зайшла на работу да сяброўкі і званю адтуль. „Гэта ж, здаецца, недалёка? Дык прыязджай неадкладна да нас. Прыедзеш, так?“ Я адказала, што так, але што я не адна, а з маім сябрам. І што прыеду разам з ім. Мы доўга шукалі кветак, якія б нам спадабаліся. Я ўжо купіла букет, але ён шукаў нечага ад сябе. Нарэшце, купіў нейкі небанальны букецік кветак з агародчыка. Калі прыехалі да маіх знаёмых, засталі там вялікую кампанію. Усе сядзелі за шырокім сталом і з прыемнасцю глянулі на новых гасцей.

Трэба сказаць, што людзі ў гэтай кампаніі былі вельмі цікавыя. Гаспадыня пачала ўвіхацца каля нас, а пасля выйшла на кухню, каб нешта нам падрыхтаваць. У той час гаспадар прысеў ля мяне (майго сябра ён пасадзіў з другога боку стала), пачаў туліцца да мяне і абцалоўваць па валасах. Пасля пачаў цалаваць рукі, а яшчэ пазней нахіліўся і пацалаваў у брудныя джынсы. Госці глядзелі недаўменна на гэтую сцэну. Сябра, з якім я прыйшла, усміхнуўся і сказаў: „Ой, бачу я, што нехта тут некага вельмі любіць!“ Калі надыйшла гадзіна дзесятая вечара, гаспадар раптам устаў і сказаў: „А цяпер — усе па хатах!“ Усе госці хуценька падняліся, замітусіліся і пачалі выходзіць. Неспадзявана гаспадар выпхнуў за дзверы і майго сябру. Сябра быў памкнуўся, каб выцягнуць за руку і мяне з калідора, але гаспадар сказаў станоўча: „Хвілінку, яна застаецца!“ І пачалі разам з яго каханкай упрашваць мяне, каб я засталася ў іх на начлег. Я ледзь вырвалася з іх абдымкаў і пацалункаў. І выскачыла на двор, дзе чакаў мяне мой сябра. Пайшлі мы на танцы.

І цяпер я ў недаўменні. Не разумею, навошта я ім была там патрэбная: ці дзеля таго, каб „утраіх было нам весялей“, ці дзеля таго, каб на гэтую ноч я была яго напарніцай... А што ты на гэта, Сэрцайка?

**Агата**

Агата! Відаць усё ж, што хацелі цябе пакінуць, бо „ўтраіх было б ім весялей.“ Інакш чаго б прасіла цябе гаспадыня, ды і навошта яны мелі б выпіхаць за дзверы твайго сябру? Мо таму якраз шлюб ім непатрэбны, бо іншыя справы ім пакуль што ў галаве.

**Сэрцайка**

# КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

## БАРАНІНА ПА-ВЕНГЕРСКУ

На 80 дэкаў бараніны (з задняй часткі) узяць 5 дэкаў мукі, 5 дэкаў шмальцу, 5 дэкаў капчонай саланіны, 4 зубкі часнаку, 10 дэкаў морквы, 10 дэкаў пятрушкі, 10 дэкаў цыбулі, 10 дэкаў таматнай пасты, паўшклянкі белага сухога віна, лаўровы лісток, соль, перац.

Мяса ачысціць і памыць, старанна нацерці часнаком, расцертым з соллю, і пакінуць так на гадзіну. Гародніну памыць, ачысціць, спаласнуць, нарэзаць макаронам. У каструльцы растапіць шмалец, палажыць падрыхтаванае мяса, палажыць гародніну і тушыць пад крышкай на невялікім агні. Саланіну нарэзаць дробнай костачкай і разам з лаўровым лістком дадаць да стравы, пасыпаць перцам. Па меры патрэбы даліваць пакрысе вады. Таматную пасту перамяшаць з віном і прасеянай мукой, дадаць да стушанага мяккага мяса, тушыць яшчэ хвіліну, тады нарэзаць вялікімі скрылёчкамі і палажыць на талерку, а навокал — фрыткі з бульбы. Падаваць з салатай.

## ШАШЛЫК З БАРАНІНЫ

На 40 дэкаў бараніны без косці ўзяць 20 дэкаў саланіны ці свежага бачку, 12 дробных цыбулек, 5 зубкоў часнаку, паўлыжкі маярану, некалькі лісткоў сушанага базіліку і эстрагону, соль, перац, шмалец.

Мяса (найлепш з палядвіцы) памыць, нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі, крыху збіць, а калі кавалкі будуць завялікія, нарэзаць іх так, каб былі дыяметрам 2 см. Часнок абабраць, дробна пасячы, перамяшаць з раскрышаным маяранам, эстрагонам і базілікам. Кавалачкі мяса перамяшаць з прыправамі, накрыць. Пакінуць у халадзільніку на некалькі гадзін. Саланіну ці бачок нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі той жа велічыні, што і кавалкі мяса. Цыбульку абабраць, спаласнуць. Наколваць на шпагі наперамену кавалкі мяса, цыбульку і саланіну ці бачок. Падрыхтаваны шашлык класці на патэльню з разагрэтым шмальцам. Крыху падсмажыць, пасыпаць соллю і перцам. Тады патэльню накрыць і пакінуць на маленькім агні. Тушыць шашлык на працягу некалькіх мінут.

На талерку кладзем рыс, пасыпаны пасечанай зялёнай пятрушкай. На рыс палажыць шашлыкі на шпагах, а навокал іх — падсмажаныя памідоры. Падаваць адразу. Гэта страва павінна быць вельмі гарачая.

**Гаспадыня**

 


# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


### І „ЗОРКА“ ВІНШУЕ ЮБІЛЯРА

Нядаўна ў аддзеле культуры Ваяводскай управы ў Беластоку адбылася вельмі мілая ўрачыстасць. Дырэктар аддзела культуры Марыя Маранда ўручыла вядомаму ўсім нам беларускаму паэту ў Польшчы Віктару Шведу віншавальны ліст з нагоды 50-годдзя літаратурнай дзейнасці „за паэтычную творчасць, славячую красу і прыгажосць Беласточчыны“, як гаварылася ў лісце, падпісаным віцэ-ваяводам Е. Слезакам.

Чытачам „Зоркі“ паэта Віктара Шведа занадта прадстаўляць не трэба. Яго вясёлыя жартысмяшынкі нязменна госцяць на нашых старонках. Дзеці завучваюць іх нават на памяць, як рыфмаваныя анекдоты, а амаль усе школьныя кабінеты беларускай мовы ўпрыгожаны яго цудоўнымі і вельмі зразумелымі, даступнымі патрыятычнымі вершамі. Не здарылася, мабыць, і ў гісторыі беларускіх дэкламатарскіх конкурсаў, каб там не гучалі вершы гэтага, такога блізкага ўсім нам паэта.

Віктар Швед — гэта адзін з нас, наш зямляк, выхадзец з беларускай вёскі Мора на Гайнаўшчыне.

Пачынаў ён пісаць вершы ў вельмі раннія дзіцячыя гады. Але ўжо першы верш „Не думай ніколі, што ўмееш даволі“, напісаны ў школьную сценгазету, гучыць як бы быў напісаны сёння.

Прабаваў Віктар у школьныя гады пісаць вершы і па-польску. На яго першы польскі верш настаўніца польскай мовы зарэагавала недаверам:

— З чаго спісаў?

Калі ж пераканалася, што хлапец сам укладае такія вершы, сказала:

— Сынку, у табе дрэмле вялікі талент, працуй над сабою ў гэтым напрамку.

Вясковы хлапчук, які вырас сярод палёў і лясоў, у якога душа фармавалася пад уплывам жаўруковых спеваў над полем, успрымаў свет вельмі эмацыянальна, а рыфмы ўкладаліся самі. Дарэчы, і сёння рыфмаванне паэту прыходзіць само, як бы няхочучы.

У школе рыфмы ходзяць за хлопцам неадступна. Рыфмуе ўсё — свае думкі, зададзенае на дом сачыненне, нататку ў школьную газетку, удзельнічае ў конкурсах маладых паэтаў.

З часоў акупацыі прыпамінаецца паэту верш, які ён напісаў, усхваляваны весткай аб фашысцкіх зверствах, — „Pamięci powieszonych w Białowieży“. А пад уражаннем вывазу суседскіх хлапцоў і дзяўчат у Нямеччыну, піша верш (чамусьці па-руску) „Друзьям на прощание“. Гэты верш Віктар са сваім сябрам ноччу прыбіваюць цвіком на будынку школы ад вуліцы, каб усе прачыталі.

Тры дні людзі чыталі верш, а на чацверты дзень нехта зняў яго. „Мабыць, сабе на памяць нехта ўзяў, бо зняты быў акуратненька, каб не парваць“, — мяркуе паэт.

Пасля вызвалення Віктар вучыцца ў гайнаўскай беларускай гімназіі. У гэты час на словы яго вершаў піша музыку школьны настаўнік Тарноўскі, і вершы становяцца песнямі, гучаць у класах і са школьнай сцэны.

Далейшыя жыццёвыя сцежкі павялі паэта ў Варшаву, там скончыў два факультэты, у тым ліку і журналістыку, і ўсё сваё дарослае жыццё праапрацаваў рэдактарам у выдавецтве „Książka i Wiedza“. Выдадзеныя дагэтуль зборнікі вершаў для дзяцей і дарослых разышліся даўно па хатах Беласточчыны. Нядаўна ў Мінску выйшаў новы зборнік паэта „Мая зялёная Зубровія“. 500 новых вершаў укладзеныя ў два зборнікі для дзяцей і зацверджаныя да друку ўжо два гады назад, не могуць пабачыць свету з-за фінансавых цяжкасцей выдавецтва БГКТ.

З нагоды юбілею жадаем Віктару Шведу добрага здароўя і новых прыгожых вершаў.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*Марыя Маранда віншуе з юбілеем Віктара Шведа.*

*Вершы Віктара Шведа*

### АШЧАДНЫ ВУЧАНЬ

**Апошні зазваніў званок.**
**Школьнага года заканчэнне.**
**— Якія вынікі, сынок? —**
**У хаце запыталі Жэню.**

**— Нейк вы павінны зразумець,**
**Што ў старым класе зноў**
**вучуся.**
**Ашчаднасці мы будзем мець —**
**Падручнікаў купляць не мусім.**

### БУДУЦЬ САПРАЎДНЫЯ КАНІКУЛЫ

**У школе спынена навука**
**Да восені, да году новага.**
**І едуць гарадскія ўнукі**
**Да цікага жыцця вясковага.**

**— Ванны няма ў мяне, Ануля,**
**А я ж на лета вас паклікала.**
**— Як добра, што няма,**
**бабуля, —**
**Будуць сапраўдныя канікулы!**

### ДЫСКРЭТНЫ

**Скардзіцца матулі Вася:**
**— Наша пані нечакана**
**Запытала мяне ў класе,**
**Ці я ў хаце паслухмяны?**

**Адказаў я ёй: — Вядома!**
**— Дык няпраўда ж, сынку, гэта!**
**— Не магу ж спраў розных**
**з дому**
**Здраджваць прад цэлым светам!**

**Уладзімір Дубоўка**

### АЛЕННЯЯ СЦЕЖКА

На Палессі сцежак многа,
і дарожак там не меней.
З часу даўняга, былога
з іх адну завуць — Аленняй.

Назва сцежкі праз балота
абыякая, нібыта.
А спытаешся ў каго там —
цэлы скарб у ёй закрыты.

Сапраўды, у кожным слове
захаваны сэнс глыбокі.
Калі глянеш адмысловей,
ды пакруціш на ўсе бокі,

дык пачуеш пра такое,
што аж млосна ў сэрцы стане:
пра жыццё перабытое,
пра людскія ўздыханні...

Кажуць, сем вякоў зляцела,
як увосень лісце з голля,
калі тут вайна грымела,
на палескім нашым полі...

Вораг браўся чорнай хмарай,
што і сонца закрывала.
Так аднойчы і татары
наваліліся навалай.

Вёў арду Каюк пракляты,
хай яго і памяць згіне.
Бо й цяпер пачуеш з хаты,
як пужае маці сына:

— Перастань ты нюнькаць, —
кажа, —
бо Каюк ідзе з абозам.
Ён табе твой плач пакажа:
вострай шабляй вытра слёзы...

Сунімаецца малое,
азіраецца з калыскі,
быццам бачыць, што ліхое
сапраўды ад хаты блізка...

Ну дык вось. Хадзіў той
злыдзень,
рабаваў і нішчыў вёскі.
А куды ён толькі прыйдзе, —
не патрэбна й пагалоска:

засціпала дымам сонца,
ноч была, як дзень, з пажараў.
Так у нас па ўсёй старонцы
гаспадарылі татары...

Ратаваўся люд вясковы
ў гарадах, пры збройнай сіле.
Што маглі, туды на сховы
і вазілі, і насілі.

Абышла арда і Тураў,
аблягла яго навокал.
Звон, нібыта на хаўтуры,
засмучона з вежы бомкаў...

Б'юцца дзень у дзень з ардою,
б'юць з муроў і з кожнай вежы...
Стала скупа ўжо з вадою,
ненадоўга хопіць ежы.

Раду радзілі старыя:
— Трэба клікаць дапамогу!
Але ж скрозь ардынцы тыя,
скрозь ардынская аблога!

Вось адзін знайшоўся хлопец:
— Я прайду праз стан варожы!
Мяне вораг не захопіць.
Неба роднае паможа!..

У татарскую адзежу —
епанчу ды ўсё такое —
ён убраўся як належыць.
І пайшоў-такі ардою!

Каля Прыпяці праз поплаў

(Працяг на стар. 10)



 

## АЛЕННЯЯ СЦЕЖКА

**(Працяг са стар. 9)**

перайшоў, прапоўз уночы.
А у пушчы — там ён сокал,
як у хаце роднай крочыць...

Дзень ідзе, другі мінае.
Збіўся з тропу ён на трэці.
Багна скрозь пайшла такая,
што нядоўга і да смерці,

што нядоўга і загінуць
у рудой, азызлай твані.
Знікнеш-канеш у хвіліну
без труны і пахавання...

А галодна, а халодна,
а намок — не абсушыцца...
Як яму з слязой народнай
да суседзяў пратачыцца?!

Так і сяк брыдзе няспынна,
жэрдку кідае пад ногі.
Бачыць: звалена лясіна,
А пад ёй — аленя рогі.

Ён бліжэй. Алень папаўся,
як у пастку, пад яліну.
Ды які кавалак ласы!
Будзе ежа і вяндліна.

Размахнуўшыся з-з пляча ён,
нож узнёс-узняў сталёвы...
А алень зірнуў з адчаем,
толькі не прамовіў словы:

„Супыніся, чалавеча!
Я ж у горы і нядолі!
Ты мяне заб'еш, знявечыш —
сам не будзеш мець патолі...

Супыніся! Памажы мне!
Я аддзякую стакротна...“
Аж на сэрцы стала зімна,
аж абліўся хлопец потам...

Падыйшоў ён да аленя
і пагладзіў шыю, рогі.
А пасля стаў на калені
і пачаў лясіну торгаць.

І пачаў нажом сталёвым
пілаваць і секчы дрэва,
аж здрыгаўся пень яловы,
аж смала на ім кіпела.

Так па трэсачцы, па цалі
перацяў да палавіны.
Пранялося сэрца жалем
да аленя у хлапчыны.

Непрыкметна беглі хвілі.
Ён, урэшце, ўсё даконччыў.
Адвярнуў канцы ў праціле,
і алень на ногі ўскочыў.

Да зямлі прыставіў рогі,
быццам дзякаваў за волю
ці, стаміўшыся з трывогі,
ачуняць не мог ад болю.

Пастаяўшы колькі часу
і сваю сабраўшы сілу,
сцежкай гэтай ён падаўся
ўсё на поўнач небасхілу.

Хлопец глянуў:
„Дзіва, браце!
Тут, здавалася б, прадонне,
а алень нібы па гаці,
крочыць вольна і не тоне...“

Ён — услед за тым аленем
без ніякае турботы.
Як у казцы — вокамгненнем
так і выбраўся з балота.

Даў вядомку, ўзняў трывогу.
Падняліся людзі валам,
і з такою дапамогай
Тураў збіў ушчэнт навалу.

Той Каюк з ардой — наўцёкі.
Людзям добрым вызваленне.
Славу ўзнеслі чалавеку,
ўзнеслі славу і аленю.

З той часіны сцежку гэту
людзі ўсе завуць Аленняй.
Да канца так пойдзе свету
з пакалення ў пакаленне...

. . . . . . . . . . . . .

У вайне апошняй самай
Партызаны тут хадзілі.
Ад пагоні, нечакана,
праз адну знікалі хвілю...

Над балотам стаўшы станам,
дзівавалася фашысты:
„Мабыць, гэтым партызанам
памагае дух нячысты...“

А яны, прайшоўшы сцежкай,
непрыкметнай для чужынцаў
паздымалі нават вешкі,
як іх продкі ад ардынцаў...

І цяпер, праз сем стагоддзяў,
памінаем мы аленя.
Не згасаюць у народзе
успаміны пра здарэнне.




**Сяргей Папар**

### ПРЫБАБУНЬКІ

— Ты ўсё ведаеш, бабулька:
Што такое прыбабунька?

— Нас па кнігах не вучылі:
Мы свіней, гусей лічылі.
„Гусі, гусі
у бабусі...“
Я іх даглядала ў скрусе.
Падрасла.
А нас вучылі,
Каб снапы мы валачылі...

Песня, казка не ўмірала:
Іх — ад мамы — я ўбірала;
Брала мудрасць ад бабулькі:
Прымаўкі, і прыбабунькі,
І выслоўі, і пацешкі
Леглі ў кош, як сыраежкі.
Для чаго?
Каб забаўляцца,
Каб лягчэй
Была нам праца;

Каб і вы, мае унукі,
Зведалі —
І без прынукі —
Мудрасць продкаў,
Дар дзядоў
І маіх сівых гадоў:

„Хто бацькоў не слухае —
Той у пальцы дзьмухае“,
„Працу, родненькі, палюбіш —
Добрым чалавекам будзеш...“,
„Еш, пакуль рот свеж!“,
„А пераначуеш —
Тады болей пачуеш!“,
„Жыць — не мяшок шыць!“




**А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А**

У пустыя галоўкі чалавечкаў устаў патрэбныя лікі.






**Казка**

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

— На волю хачу, да дзеда! — яшчэ галасней заплакаў Саўка, бо ў яго ўжо адпала ахвота скарбы глядзець.

— Вось табе і адважны, — пачаў кпіць з яго хохлік, — звяроў не баяўся, а цяпер плачаш. Сорам, а яшчэ такі хлопец! Глянь, Саўка, налева і дзівіся!

Як глянуў Саўка налева, дык адразу плакаць перастаў, бо сярэбраныя палацы замігацелі пад зямлёй. Увёў хохлік Саўку ў палацы. Як заблішчалі залатыя сцены і дарагія камяні на сталах, дык Саўка аж засмяяўся з радасці і забыўся аб усім на свеце.

— Гэта мае палацы, — тлумачыў яму хохлік. — Я тут жыву з усёй маёй вялікай грамадой. Мы ўсе вельмі багатыя. Мая грамада разышлася па ўсіх кутках зямлі на працу. Кожны хохлік мае багатыя скарбы — куе і куе золата і дае багацце таму з людзей, хто шчыра працуе. Матка-зямля мае шмат багацця. Яна шчодрая для тых, хто любіць працаваць. Без мазалёў і поту ніякіх скарбаў не знойдзеш.

Раптам пачуўся шум пад зямлёй. З усіх бакоў, з усіх шчылін пачалі сыпацца хохлікі, як залатыя сняжынкі, як брыльянтавы мак, як жывы каляровы дождж. Малюсенькія-малюсенькія, драбнюткія-драбнюткія і многа-многа, ажно ў вачах мігацела, гледзячы на іх. А ўсе, відаць, працаўнікі заядлыя, майстры адукаваныя: хто з сякерай, хто з рыдлёўкай, хто з малатком, хто з мяшочкам за плячыма, а хто з такім дзіўным інструментам, што Саўка і не ведаў, што гэта.

— Гэта мая сямейка на вячэру прышла... Гэй, ты! — паклікаў хохлік аднаго з кампаніі. — Як расце поле таго ратая, што раней за ўсіх у вёсцы на шнур свой выходзіць?

— Вельмі добра расце... Я сам даглядаю жытнія зярняткі, кармлю іх зямельным сокам і паю расіцай.

— А ты што сягоння зрабіў? — строга крыкнуў ён другому.

— Я глядзеў за тым, каб сад добра расцвітаў, каб вецер без пары кветак не зрываў.

— Ну, глядзі, бо гаспадар дзень і ноч у садзе капаўся, трэба, каб яблыкі былі, як гарбузы, а грушы — як кулакі.

— А ты, жэўжык, што рабіў? — звярнуўся ён да трэцяга.

— Я пільнаваў агарод з агуркамі. Лічыў і лічыў, бо трэба, каб сёлета было шмат агуркоў.

— І хохлік пачаў лічыць на пальцах. — Пяць коп гаспадару; шаўцу, што яму боты шыў, — тры капы; кавалю за рыдлёўку — тры капы; хлопчыку, які ваду цягаў, — тры...

— Ах ты такі-сякі! — заззлаваўся стары хохлік. — Чаму ты гэтакі скупы? Глядзі, каб усім было не меней як па дзесяць коп!

— Буду старацца, — пужліва сказаў працаўнік.

Падышоў новы хохлік з кнігай і пачаў чытаць аб тым, як хлопчыкі ў школах вучацца, хто стараецца і хто толькі мух ловіць. Доўга чытаў ён аб гэтым, пералічваючы ўсіх сяброў і знаёмых Саўкі.

— Рыхтаваць старанным хлопчыкам самыя найлепшыя гасцінцы, а гультаям і абібокам нічога не даваць! — загадаў старшы хохлік.

Пасля розных распытванняў працавітыя хохлікі селі вячэраць. Чаго-чаго там ні было на вячэру: самыя найлепшыя прысмакі, якія толькі ёсць на зямлі. Саўку, як госцю, вядомая рэч, пападаліся найсмачнейшыя кавалкі.

Павячэраўшы сытна, Саўка заснуў і не паспеў азірнуцца, як апынуўся на ложку сваім у дзедавай хаце.

З таго часу болей Саўка не шукаў скарбаў, бо ведаў, што матка-зямля мае іх у сабе вельмі шмат, але дае толькі тым, хто працуе. І Саўка ўзяўся за навуку, каб навучыцца працаваць.

**Змітрок Бядуля**



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

